МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**№2** (142)
**люты 2014**

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### РАЗВІТАННЕ З РЫГОРАМ БАРАДУЛІНЫМ

Тысячы людзей прыйшлі 4 сакавіка ў Чырвоны касцёл у Мінску, каб развітацца са слынным беларускім паэтам Рыгорам Барадуліным.

*Чытайце на стар. 2*

### ПАМЯЦІ МІКОЛЫ ПРУСКАГА

Пра вядомага дзеяча беларускай эміграцыі ў ЗША піша Марыя Міцкевіч.

*Чытайце на стар. 2*

### БЕЛАРУСКА-ЭСТОНСКАЕ ЗГУРТАВАННЕ АДСВЯТКУЕ 25-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ

25 гадоў таму паўстала гэтае аб'яднанне беларусаў, якія воляй лёсу апынуліся далёка ад роднай зямлі.

*Чытайце на стар. 4*

### 20-ГОДДЗЕ "УЗДЫМУ"

9 лютага 2014 года ў Даўгаўпілсе адбылася важная падзея для беларускай дыяспары. Беларускае культурна-асветніцкае таварыства "Уздым" святкавала сваё 20-годдзе.

*Чытайце на стар. 5*

IN MEMORIAM

## "АДЫШОЎ АПОШНІ ПАЭТ НЕЗЯМНОЙ ПРЫГАЖОСЦІ"

2 сакавіка 2014 года не стала Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Яму было 79 гадоў.

Рыгор Барадулін нарадзіўся 24 лютага 1935 года на хутары Верасоўка, што на Вушаччыне ў Віцебскай вобласці. Выдатны беларускі паэт, перакладчык, даследчык беларускай мовы, ён з'яўляецца аўтарам некалькіх дзясяткаў кніг. Ён стаў апошнім беларусам, якому надалі званне Народнага паэта. Гэта адбылося ў 1992 годзе. У 1976 годзе ён быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Янкі Купалы за зборнік вершаў "Рум" і пераклады з Федэрыка Гарсіі Лоркі. Сярод іншых атрыманых ім узнагародаў – Ордэн Дружбы народаў, Ордэн Знак Пашаны, латышскі Ордэн Трох Зорак, медаль Францыска Скарыны.

Рыгор Барадулін – Ганаровы сябра Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Ганаровы віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, Ганаровы доктар БДУ, ганаровы грамадзянін Вушацкага раёна.

"Адышоў унікальны для Беларусі і не толькі для Беларусі паэт, апошні паэт незямной прыгажосці. Натуральны, моцна беларускі. Паэт такой сілы, што я не магу яшчэ казаць пра яго веліч, гэта вызначыць час. Але шчасце, што Бог паслаў нам гэтага генія, чараўніка, празорцу. Гэта вельмі рэдка здараецца, што прыходзяць паэты такой сілы. Але шчасце, што гэта здарылася", – так сказаў беларускі паэт і грамадскі дзеяч Генадзь Бураўкін у інтэрв'ю "Радыё Свабода".

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае глыбокія спачуванні родным і блізкім Рыгора Барадуліна.***

***Смуткуем з нагоды гэтай цяжкай страты для ўсяго беларускага народа. Светлая і вечная яму памяць!***



*Фота: Джона Кунстадтэра*

***

Пакуль жывеш, развітвайся з жыццём
Штогодна, штогадзінна, штохвілінна,
Твой кожны дзень,
Забраны забыццём,
Лічы сваім найбольшым адкрыццём,
Ты — з дрэва часу
Кволая галіна.
Штодня вядзі з самім сабою бой,
Каб клопаты цябе не пахавалі,
Жыві надзеяй,
Мараю слабой,
Што свет трымаецца
Адным табой —
З ракі ўсёзабыцця — намерам хвалі.
Старайся не ў дзяльбе,
А ў малацьбе,
Каб вымалаціць з цемрачы праменне.
Ляж зморшчынкай
Ва ўсмешцы на ілбе,
Каб недзе ўспомніла жыццё цябе,
У незваротнай вечнасці —
Імгненне.

*Рыгор Барадулін, 1985 г.*

# Развітанне з Рыгорам Барадуліным

Тысячы людзей прыйшлі 4 сакавіка ў Чырвоны касцёл у Мінску, каб развітацца са слынным беларускім паэтам Рыгорам Барадуліным. Пахавальная служба прайшла паводле грэка-каталіцкага і рыма-каталіцкага абрадаў. Пасля імшы ў труну паэта паклалі бел-чырвона-белы сцяг.

Словы ў памяць Рыгора Барадуліна выказалі архімандрыт Сяргей Гаек і мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, апостальскі нунцый Клаўдыё Гуджэроці, паэт Уладзімер Някляеў, якія казалі пра геній паэта, роўнага класікам, ягоны духоўны подзвіг.

Катафалк з труной Барадуліна і некалькі аўтобусаў з людзьмі накіраваліся ў Вушацкі раён. Згодна з апошняй воляй паэта, яго пахавалі на малой радзіме, на старых вушацкіх могілках побач з мамай, Акулінай Андрэеўнай Барадулінай. Сваёй маці Рыгор Барадулін прысвяціў нямала вершаў, захапляўся яе жыццёвай мудрасцю і пачуццём мовы, запісваў матчыны прымаўкі, прыказкі, аповеды, якія пазней увайшлі ў яго кнігу "Вушацкі слоўазбор".

З Вушачамі паэт ніколі не траціў сувязі, нават набыў тут хату і прыязджаў сюды амаль штогод, пакуль дазваляла здароўе. Каля гэтай хаты па вуліцы Школьнай і прайшла жалобная ўрачыстасць, арганізаваная раённым аддзелам культуры. Каб развітацца са сваім выбітным земляком, ушачане пачалі прыходзіць яшчэ за дзве з паловай гадзіны да таго, як з Мінска прыехаў жалобны катафалк.




Пасля жалобнага мітынгу працэсія рушыла да могілак, што месцяцца за 2,5 км ад роднай хаты нябожчыка. Там каталіцкія і ўніяцкія святары правялі службу. Выступілі з прамовамі Лявон Баршчэўскі і Андрэй Хадановіч. Затым труну панеслі ўгару, на месца апошняга спачыну Рыгора Барадуліна, у самую сярэдзіну могілак пад стромкімі соснамі. Драўляны крыж наперадзе нёс Уладзімер Арлоў, партрэт сябра — Уладзімер Някляеў.

Апошняе развітанне таксама прайшло пад малітвы. Напрыканцы ўсе разам заспявалі "Магутны Божа".

Пахаванне скончылася ўжо ў прыцемках. Але мясцовыя людзі парупіліся, каб усім прысутным было зручна: на могілкі падвялі асвятленне. Ніхто не спяшаўся разыходзіцца, усім хацелася хаця б крыху яшчэ пабыць тут, побач з дзядзькам Рыгорам. Каля ягонай магілы, пакрытай белымі і чырвонымі кветкамі...

Апошнюю волю Рыгора Барадуліна выканалі: ён знайшоў адвечны супакой там, дзе хацеў — на роднай вушацкай зямлі.

*Паводле "Радыё Свабода" і tut.by*

# Памяці Міколы Прускага

22 студзеня на 87-м годзе жыцця адышоў у вечнасць вядомы дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША, ганаровы сябра Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", друкар і выдавец Мікалай Юр'евіч Прускі. Нарадзіўся ён 1 студзеня 1928 г. у Мікалаеўшчыне на Стаўбцоўшчыне. Яго маці Міхаліна Яўхімаўна была стрыечнай сястрой Якуба Коласа (па бацьку).

На пачатку 1941 г. бацька Міколы, які працаваў настаўнікам, па даносе быў арыштаваны. Сям'ю, якая засталася без сродкаў, пад сваю апеку ўзяў малодшы брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Бацьку хутка адпусцілі, але страх былога арышту і настаўніцкая праца падчас нямецкай акупацыі вымусілі сям'ю пакінуць Беларусь. Шмат настаўнікаў (у тым ліку і Міхась Міцкевіч), якія разумелі, што дзецям у любых умовах патрэбная адукацыя, працягвалі вучыць дзяцей у гады акупацыі, і пры надыходзе Чырвонай арміі пакінулі Беларусь, бо адчувалі, што гэтая праца ім будзе залічана як здрада.

Некаторы час сям'я жыла ў лагеры для перамешчаных асобаў недалёка ад горада Мітэнвальд (Нямеччына), потым – у ЗША ў Дэтройце. Мікола Прускі браў актыўны ўдзел у культурным жыцці беларускай эміграцыі, быў актывістам Беларуска-амерыканскага клуба, кіраўніком Беларускага драматычнага гуртка ў Дэтройце, які выступаў у розных гарадах ЗША. Але ён больш праславіўся як таленавіты друкар і выдавец кніг і часопісаў беларускай эміграцыі. Ён набыў старое друкарскае абсталяванне і арганізаваў друкарню ў сваім доме. З "Друкарні Міколы Прускага" выйшлі такія кнігі як бібліяграфія "Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе" (1985) і іншыя выданні БІНіМа, альбом "Выдатныя людзі беларускага народу" (1979), зборнік "Янка Купала і Якуб Колас. Вянок успамінаў пра іх" (1982), кнігі, часопісы, канверты і г.д.

У 1957 г. Мікола Прускі пачаў выдаваць на англійскай і беларускай мовах часопіс "Сьвет" ("World"), у 1959 г. газету "The New American". Пераемнікам часопіса "Сьвет" у 1963 г. стаў беларуска-амерыканскі культурна-асветны часопіс на беларускай мове "Беларускі Сьвет". Там друкаваліся літаратурныя творы пісьменнікаў Беларусі і эміграцыі, публіцыстычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, успаміны, нарысы пра дзеячаў навукі і культуры. Многія нумары прысвячаліся асобным вядомым беларускім дзеячам, партрэты якіх змяшчаліся на вокладцы (у тым ліку Я.Коласу, Я.Купалу, М.Багдановічу, В.Быкаву, М.Куліковічу-Шчаглову, У.Глыбіннаму, Н.Арсенневай, К.Каліноўскаму і іншым). У часопісе змяшчаліся фотаздымкі розных часоў, тэксты і ноты беларускіх песень, узоры беларускага арнаменту, старонкі беларускага гумару. Да некаторых нумароў прыкладаўся дадатак "Думкі й погляды". Мікола Прускі таксама быў выдаўцом і рэдактарам газеты беларускага замежжа ў Амерыцы "Беларускі Дайджэст" (выходзіла ад 1992 г.).

Апошнія гады жыцця прайшлі ў горадзе Грэнд Рэпідс штата Мічыган. Акрамя друкарскай справы, Мікола Прускі займаўся дабрачыннай дзейнасцю. Ён быў арганізатарам збору грошай у Амерыцы на будаўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы (яго жонка Вера паходзіць родам з Беласточчыны). Таксама Мікола Прускі быў кансультантам па Усходняй Еўропе амерыканскай арганізацыі "International Aid inc", офіс якой знаходзіўся ў штаце Мічыган. Першы раз ён прыехаў у Беларусь у 1991 г. з прадстаўнікамі гэтай арганізацыі і гуманітарным грузам для нашай краіны, пацярпелай ад Чарнобыльскай катастрофы. Другі раз Мікола Прускі наведаў Беларусь разам з дачкой Ганнай, наступны – з жонкай Верай і дачкой Соняй. Яму хацелася паказаць сваім блізкім Беларусь, родную Мікалаеўшчыну, месца, дзе стаяла бацькоўская хата, дакрануцца да роднай зямлі. Да апошніх дзён Мікола Прускі цікавіўся беларускімі справамі, прасіў дасылаць дакладную інфармацыю і беларускія перыядычныя выданні.

*Паводле Марыі Міцкевіч*

## ДОКТАРА ГЛАГОЎСКУЮ ЗВАЛЬНЯЮЦЬ З БЕЛАСТОЦКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА

Даследчыцу Лену Глагоўскую звальняюць з Беластоцкага ўніверсітэта, дзе яна адпрацавала 15 гадоў. За гады сваёй працы на кафедры беларускай культуры яна напісала сотні навуковых і навукова-папулярных артыкулаў, адрэдагавала 30 кніжак, і гэта няпоўны пералік вынікаў яе працы. Нядаўна доктар Лена Глагоўская атрымала чарговую навуковую ступень.

Рашэнне кіраўніцтва факультэта тым больш здзіўляе, што праца выкладчыцы была ацэнена пазітыўна адмысловай камісіяй. Рэктар універсітэта ў Беластоку ў вуснай размове паведаміў Лене Глагоўскай, што звальненне звязанае з фінансавымі цяжкасцямі ўстановы. Як кажа выкладчыца, калі ўлады ўніверсітэта будуць выкарыстоўваць выключна фінансавыя аргументы, то кафедра беларускай культуры хутка можа быць поўнасцю ліквідавана.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

## СПРАВАЗДАЎЧА-ВЫБАРЧАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ТАВАРЫСТВЕ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ

8-га лютага 2014 г. у сядзібе ТБК адбыўся справаздачны сход сяброў таварыства.

Удзельнікі сходу мінутаю маўчання ўшанавалі памяць Міхася Жызнеўскага. 25-ці гадовы беларус загінуў 22-га студзеня 2014 г. у Кіеве на Майдане.

Справаздачны даклад Рады ТБК за 2012-2013 гг. зрабіў старшыня Рады спадар Хведар Нюнька. Увага ўдзельнікаў сходу была да тых спраў, якія не былі вырашаныя. Сярод такіх – ушанаванне памяці Кастуся Каліноўскага і Музей Івана Луцкевіча. Таварыствам беларускай культуры ў Літве быў зроблены шэраг зваротаў да кіраўніцтва адпаведных літоўскіх уладаў і да прэм'ер-міністра на дазвол усталяваць памятны знак на месцы ўмоўнага пахавання К.Каліноўскага на гары Гедыміна. Дазволу пакуль не атрымалі. Матывацыя адмовы – недастатковасць гістарычнага матэрыялу. Беларусам Вільні давядзецца рабіць далейшыя намаганні, каб пераканаць літоўскія ўлады, што годнае ўшанаванне памяці кіраўніка паўстання 1863 г. у Літве і Беларусі Кастуся Каліноўскага патрэбнае абодвум нашым народам – і беларусам, і літоўцам.

Удзельнікі сходу выказалі заклапочанасць фінансавымі праблемамі ўтрымання агульнай маёмасці таварыства – сядзібы на вуліцы Бролю, 9-86. Шэраг апошніх гадоў выдаткі на сядзібу стала перавышаюць агульны прыбытак. Як засведчылі чальцы Рэвізійнай Камісіі, кожны год, каб выплаціць усе выдаткі, недастачу пакрывае (крэдытуе) старшыня ТБК сп. Хв.Нюнька. Новаабранай Радзе патрэбна прысвяціць увагу гэтай праблеме і знайсці спосаб збалансавання выдаткаў і прыбыткаў.

На новы тэрмін абрана Рада ў складзе Адамковіча Алеся, Акуневіча Васіля, Балаховіч Крыстыны, Карачуна Змітра, Нюнькі Хведара, Радзюкевіча Валера, Сваяка Данілы, Трусава Алеся, Яўмена Артура. На арганізацыйным паседжанні Рады сп. Хведар Нюнька адзінагалосна абраны старшынёй Рады.

*Паводле Васіля Акуневіча*

## ІНГА ПЭЦ ПРА НЯЛЁГКУЮ ЛЮБОЎ ДА БЕЛАРУСІ

5 лютага ў берлінскім клубе "Buchhändlerkeller" адбылася вечарына памяці перакладчыка, публіцыста і папулярызатара беларускай літаратуры ў Нямеччыне Норберта Рандава, які памёр 1 кастрычніка летась. "Лёс і ўпартасць" — так назваў свой тэкст пра Рандава і Беларусь нямецкі журналіст Інга Пэц.

Беларусь (Weißrussland, як, на жаль, гэтую ўсходнееўрапейскую краіну дагэтуль называюць у Нямеччыне) — невядомая краіна. Нягледзячы на сваю няпростую, вельмі еўрапейскую культуру і гісторыю. У Беларусь не ездзяць проста так, як ездзяць у Іспанію або Англію. Толькі лёс — калі верыць у лёс — можа прывесці вас у Беларусь. Але той, хто ўрэшце там пабывае, ужо ніколі гэтай краіны не пазбудзецца.

Я, у 1994 годзе студэнт усходнееўрапейскай гісторыі, трапіў у Беларусь выпадкова. Бальшыня ўсё ж едзе ў Расію, каб там выпрабаваць свае нядаўна набытыя расійскія веды. Выпадкова трапіў у Беларусь і Норбэрт Рандаў. Ягоная сястра, пакуль ён адбываў сваё зняволенне ў ГДР, выйшла замуж за салдата-беларуса. Так Норберт Рандаў у шасцідзясятыя гады спазнаў і палюбіў беларускую літаратуру. Ужо ў 1971 годзе ён апублікаваў першую беларускую анталогію ў нямецкамоўнай прасторы "Буслы над балотамі". У яе ўвайшлі апавяданні Янкі Купалы, Якуба Коласа, Янкі Брыля, Івана Мележа, Максіма Гарэцкага і, вядома ж, Васіля Быкава — гэткім чынам яны ўпершыню сталі даступныя нямецкаму чытачу.

Той, хто прачытае вельмі дэталёвае пасляслоўе Рандаў у гэтай кнізе, заўважыць, як шалёна, як апантана ён ужо тады акапаўся ў беларускай літаратуры. А таксама ў беларускай гісторыі, зразумець якую — і гэта я магу пацвердзіць са свайго досведу — зусім не лёгка. Разам з сваім шваграм Уладзімерам Чапегам і сястрой Гундулай ён пераклаў яшчэ шмат іншых беларускіх кніг і аўтараў, стаўшы першапраходцам на ніве беларускай літаратуры ў Нямеччыне. Значэнне яго як піянера і пасярэдніка невядомай еўрапейскай літаратуры немагчыма пераацаніць. Таму ў Беларусі Норберта Рандаў шануюць і да сёння. Ягоныя літаратурныя заслугі былі адзначаны больш чым дастаткова, і я не буду на іх спыняцца падрабязней.

Урэшце Беларусь звяла і мяне з Норбертам Рандаў. Таксама выпадкова. Агульны знаёмы, пісьменнік Уладзімер Арлоў, падчас аднаго з маіх прыездаў у Беларусь у 2009 годзе скантактаваўся са мной і папрасіў узяць з сабой у Берлін кнігі і часопісы для Норберта Рандаў. Вярнуўшыся ў Берлін, я зайшоў да Норберта Рандаў у ягоную кватэру ў Моабіце і сустрэў там кемлівага, сардэчнага — і што мне асабліва спадабалася — надзвычайна ўпартага, незалежнага і вальналюбнага мысляра, які прыйшоў відавочна не з герметычна закрытага акадэмічнага грамадства, а з бурлівага віру жыцця. І гэта мне спадабалася. А яшчэ мне спадабалася, што Норберт Рандаў меў бунтарскія меркаванні, якія ён выказваў ясна і выразна, а часам і з зацятай упартасцю. "Без беларускіх класікаў не варта нават і пачынаць. Іх трэба ведаць абавязкова. Яны — гэта падмурак. Хто іх не ведае, той беларускую літаратуру не зразумее". Лішне казаць, што пра рынкавыя правілы, паводле якіх сёння працуе кніжны рынак, Норберт Рандаў не хацеў і чуць. Бо ў іх палягае прычына таго, што беларускім кнігам сёння так цяжка прабіцца на нямецкі рынак. І гэта Норберту Рандаў давялося адчуць на сваім досведзе — ягоны пераклад рамана Максіма Гарэцкага "Дзве душы" дагэтуль так і не знайшоў выдаўца. На жаль.

Я вельмі рады, што быў знаёмы з Норбертам Рандаў. Праз яго я лепш зразумеў, чаму і я адчуваю такую вялікую прыхільнасць да Беларусі. Праз яго я трошкі лепш зразумеў і самога сябе. Таму, дарагі Норберт Рандаў, я хацеў бы падняць тост за Вас. І як належыць палове беларусаў, вядома ж, з адпаведным пафасам: "Жыве Норберт Рандаў!"

Дзякую Вам!

*Пераклаў Сяргей Шупа.*
*Паводле "Радыё Свабода".*
*Цалкам матэрыял чытайце на zbsb.by*

# БЕЛАРУСКА-ЭСТОНСКАЕ ЗГУРТАВАННЕ АДСВЯТКУЕ 25-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ

"БЭЗ". Пра тое, што ў нашым рэгіёне існуе таварыства беларускай культуры з такой кароценькай, але сімвалічнай назвай, ужо даўно вядома не толькі ва ўсім Іда-Вірумаа, але і далёка за межамі Эстоніі.

25 гадоў таму паўстала гэтае аб'яднанне беларусаў, якія воляй лёсу апынуліся далёка ад роднай зямлі. Ля вытокаў "БЭЗа" стаяла творчая і тэхнічная інтэлігенцыя: нядаўнія выхадцы з Беларусі і дзеці пасляваенных беларускіх перасяленцаў, якія выраслі ў Эстоніі. Аб'яднала ўсіх нас жаданне не страціць сваю нацыянальную ідэнтычнасць у грамадстве, якое неяк разам размежавалася на эстонцаў і на масу так званых рускамоўных. Гэта вызначыла і нашую асноўную мэту: захаванне ўласных, амаль страчаных каранёў, культурных каштоўнасцяў, сваёй гісторыі, роднай мовы, нацыянальных традыцый.

Нагадаю, што назва "БЭЗ" атрымалася складаннем першых літараў назвы – Беларуска-эстонскае згуртаванне. Акрамя таго, гэтая назва аманімічная беларускаму слову "бэз" – вось і атрымліваецца, што мы, эстонскія беларусы, – адно з суквеццяў вялізнага куста рассеянага па свеце народа нашай маці-Беларусі.

Праз месяц, 23 сакавіка, "БЭЗ" будзе святкаваць свой юбілей у чвэрць стагоддзя, таму, напэўна, варта паглядзець на гэтую дату збоку: ну, добра, нейкая частка мясцовых беларусаў тусуецца дзеля ўласнага задавальнення, адзначае свае святы, свае даты – а ці трэба гэта яшчэ камусьці, акрамя іх саміх?

Пішу і сама ўсміхаюся, успамінаючы, як сустракаюць нас на любым гарадскім, павятовым або на нашым уласным мерапрыемстве. "БЭЗ" – гэта ўжо брэнд, абсалютна вядомы знак, звязаны з беларускай культурай у многіх яе праявах.

Даволі складана падлічыць, з творчасцю колькіх беларускіх калектываў, запрошаных "БЭЗам", пазнаёміліся жыхары Іда-Вірумаа. Усе яны даюць радасць сустрэчы з беларускай музыкай, песнямі, танцамі, з тэатральным мастацтвам, з працамі беларускіх мастакоў. Нашыя фестывалі беларускай песні "Родныя напевы" і беларускага гумару "Усмешка па-беларуску" збіраюць беларусаў усёй Эстоніі і абавязкова гасцей з самой Беларусі. А мясцовыя жыхары запаўняюць залы, радуючыся новым сустрэчам з беларускім мастацтвам. Выдатна прымаюцца выступы нашага ўласнага ансамбля, дзе б мы ні бывалі, а мы бываем у розных гарадах і вёсках Эстоніі.

Пастаўскі ансамбль "Паазер'е" стаў зусім пазнавальным у Іда-Вірумаа. Дзякуючы яму завязаліся партнёрскія сувязі паміж Йыхві і горадам Паставы.

Вялікім дасягненнем мы лічым, што менавіта дзякуючы намаганням "БЭЗа" ўсталяваны адзіны ў Эстоніі знак памяці беларускаму дзеячу культуры – пісьменніку Янку Скрыгану, які некаторы час жыў і працаваў уКівіылі.

А калі паглядзець шырэй, то "БЭЗ" у межах паняцця народнай дыпламатыі цалкам годна прадстаўляе наш рэгіён і ўсю Эстонію на міжнародных мерапрыемствах як у Беларусі, так і ў іншых краінах, у тым ліку ў Літве, Польшчы, Чэхіі.

Таму, здаецца, нашая праца як прыклад ўсвядомленага ўспрымання асобы ў шматкультурным асяроддзі Іда-Вірумаа патрэбная не толькі нам самім, але яшчэ і шматлікім іншым жыхарам Эстоніі.

Як знак высокай ацэнкі нашай працы і з вялікай удзячнасцю мы ўспрынялі тое, што Йыхвіскае валаснае кіраўніцтва зарэзервавала для святкавання нашага 25-гадовага юбілею вялікую залу Канцэртнай дома. А гэта значыць, што ўсе ахвочыя змогуць 23 сакавіка прыйсці на нашае свята і зноў сустрэцца з актывістамі "БЭЗа", з яго ансамблем, з гасцямі з беларускіх таварыстваў Эстоніі, з гасцямі з Беларусі і, вядома, з выдатным заслужаным калектывам, фальклорным ансамблем "Паазер'е".

*Зінаіда Клыга,*
*старшыня Таварыства беларускай культуры Іда-Вірумаа "БЭЗ".*



**Даведка**

Беларуска-эстонскае згуртаванне "БЭЗ" на сённяшні дзень – найстарэйшая з працуючых у Эстоніі беларускіх суполак. Яно было заснавана ў сакавіку 1989 года.

За 25 гадоў сваёй дзейнасці аб'яднанне зрабіла значны ўнёсак у культурнае асяроддзе на паўночным усходзе Эстоніі, ва ўездзе Іда-Вірумаа, у гарадах Йыхві і Кохтла-Ярвэ.

Акрамя выканання асноўных сваіх мэтаў – захоўвання роднай мовы і беларускай культуры, папулярызацыі сваёй культуры ў шматнацыянальным рэгіёне Іда-Вірумаа – "БЭЗ" спрыяў стварэнню беларускіх суполак у Нарве ("Сябры" – 1999 г.) і ў Сіламяэ ("Крыніца" – 2005 г.), а таксама ўзмацненню інтарэсу да беларускай культуры з боку ўладаў гарадоў і ўездаў. Йыхвіская воласць падпісала пагадненне аб супрацоўніцтве з беларускім горадам Паставы, горад Кохтла-Ярвэ – з горадам Салігорскам.

Акрамя Эстоніі і Беларусі, "БЭЗ" добра вядомы сярод беларускіх арганізацый у свеце. 20 гадоў таму мы ўдзельнічалі ў стварэнні Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", і прадстаўнік "БЭЗа" – Зінаіда Клыга – усе гады ўваходзіць ў раду Згуртавання. Таксама "БЭЗ" з'яўляецца сябрам Аб'яднання беларусаў Балтыі і ўдзельнічае ў сумесных культурніцкіх ды асветных акцыях.

Гэткія мерапрыемствы "БЭЗа" як перыядычныя фестывалі "Родныя напевы", "Усмешка па-беларуску", традыцыйныя выставы Аб'яднання беларускіх мастакоў Балтыі "Маю гонар" накіраваныя на арганізацыю сумеснай дзейнасці ўсіх рэальна працуючых аб'яднанняў беларускай культуры Эстоніі.

Адзначаючы сваё 25-годдзе, "БЭЗ" запланаваў правесці канферэнцыю "Беларуская дыяспара Эстоніі: рэаліі ды надзеі" з удзелам прадстаўнікоў беларускіх суполак Эстоніі, Амбасады РБ ў Эстоніі, Міністэрстваў культуры Эстоніі і Беларусі, кіраўнікоў ЗБС "Бацькаўшчына", а таксама прадстаўніка Аб'яднання беларусаў Балтыі.

З аднаго боку, гэткая прадстаўнічая канферэнцыя – своеасаблівая справаздача аб працы "БЭЗа" за 25 гадоў, а з другога – яшчэ адзіны крок у сумеснай дзейнасці аб'яднанняў беларускай культуры Эстоніі.

Мэта канферэнцыі – абмеркаванне надзённых праблемаў беларускіх аб'яднанняў Эстоніі і пошук шляхоў іх вырашэння ў межах будучага Закона аб беларусах замежжа.

Сярод юбілейных мерапрыемстваў прадугледжаныя таксама выстава мінскай мастачкі Людмілы Налівайка ў Йыхвіскай мастацкай школе ды вялікі канцэрт з удзелам ансамбля "БЭЗ" і Заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь фальклорнага ансамбля "Паазер'е" .

Святочныя мерапрыемствы пройдуць 23 сакавіка ў Йыхвіскім канцэртным доме пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры ЭР, Фонда інтэграцыі і міграцыі "Нашы людзі", фонда Eesti Kultuurkapital, Йыхвіскай воласці і мэрыі г. Кохтла-Ярвэ.

*На здымку - Зінаіда Клыга*

## 20-ГОДДЗЕ "УЗДЫМУ"

9 лютага 2014 года ў Даўгаўпілсе адбылася важная падзея для беларускай дыяспары. Беларускае культурна-асветніцкае таварыства "Уздым" святкавала сваё 20-годдзе. Было шмат гасцей. Сярод іх, як заўсёды, былі прадстаўнікі нашага Генеральнага консулату: Генеральны консул Віктар Міхайлавіч Гейсік з жонкаю, консул Таццяна Іванаўна Кручэніна, таксама госці з Рыгі: старшыня Саюза беларусаў Латвіі Валянціна Піскунова з членамі праўлення Алёнай Міцкевіч і Барысам Піскуновым, старшыня рыжскага беларускага таварыства "Прамень", дэпутат XI Сейма Латвіі Алёна Лазарава.

А самае галоўнае, што прыйшлі таксама і тыя, хто пачынаў беларускі рух у Даўгаўпілсе: першы старшыня "Уздыму" Канстанцін Капуста і яго паслядоўнікі Мікола Паўловіч, Станіслаў Валодзька, Таццяна Бучэль. Таксама актыўныя сябры таварыства тых гадоў – Зінаіда Сіліня, Яўгенія Гуляева, Яўгенія Заліўская, Леанід Парахонька, Мікола Навуменка, Зянон Буры, Людміла Лі, Анастасія Сазанкова, Яніна Шчамялёва, Вольга Паўловіч, Галіна Сантоцкая, Тамара Іванова, Кацярына Іванова, Любоў Кавалёва, Алена Бучэль і іншыя.

Вельмі прыемна было бачыць на нашым святце Людмілу Філіпаўну Каралёву. У 1990-я гады яна была старшынёй Балта-славянскага таварыства. Менавіта яна запрасіла тады ўсіх балта-славянаў у сваё таварыства. Адтуль наш пачатак. Яна была ініцыятарам правядзення арганізацыйнай канферэнцыі беларусаў (1992) з мэтай звярнуць увагу да беларускай культурна-асветніцкай працы. Тая канферэнцыя мела станоўчыя вынікі. У наступным 1993 годзе наша таварыства было афіцыйна зарэгістравана.

Многія гаварылі таксама і пра развіццё беларускай культуры ў Латгаліі ў 20-30 гады мінулага стагоддзя, калі тут існавалі беларускія школы, розныя грамадскія арганізацыі, нават драматычныя тэатры, выдаваліся на беларускай мове кнігі, часопісы, газеты. А ў 1990-я гады маленькая жменя беларусаў аб'ядналася і пачала шукаць свае карані на латгальскай зямлі. У выніку стварылася беларускае культурна-асветніцкае таварыства "Уздым".

Вось такі маленькі экскурс у гісторыю нашага таварыства. Цяпер прыйшлі новыя людзі з новымі поглядамі і планамі. Мне здаецца, і з іншым поглядам на развіццё беларускай культуры ў Латвіі. Хочацца пажадаць ім поспехаў. Нас (тых, хто пачынаў) яны называюць ветэранамі. Але ці ёсць ветэраны ў грамадскай працы? На мой погляд, мы проста людзі з багатым вопытам, які можам перадаць. У апошнія гады па розных прычынах мы сталі менш актыўнымі. Аднак, мы – беларусы і ганарымся гэтым. Наша культура з намі, у нашых сэрцах, у нашых дзецях і ўнуках, якія не цураюцца беларускасці.

Вядучыя нашага святочнага мерапрыемства Галіна Сантоцкая і Людміла Сінякова зрабілі цудоўную праграму – вечар успамінаў, дзе кожны прысутны меў магчымасць штосьці расказаць. 20 гадоў – немалы тэрмін для грамадскай працы. Было што ўспомніць і пра што пагаварыць. Быў таксама святочны канцэрт з удзелам дзяцей нядзельнай беларускай школы і творчых калектываў Цэнтра беларускай культуры: танцавальнага калектыву "Лянок", гурта беларускай народнай песні "Купалінка", трыа "Ластаўкі", калектыву "Спадчына", салістаў Паўла Прозара, Аляксандра Лапы, Зінаіды Сіліні.

У канцы сваіх успамінаў хацелася б нагадаць наступны верш. Не ведаю дакладна, чый гэта верш. Але ён мне вельмі падабаецца, бо адпавядае маім думкам. Здаецца, што аўтар Э.Казак-Казакевіч – латгальская настаўніца 30-х гадоў.

Быў час, калі жыццё кіпела,
І пачуццё ўзносіла ўсіх нас,
Было духоўнае задавальненне,
Святы быў час...
Але прайшлі хвіліны залатыя,
Прайшоў перыяд нашага жыцця,
І засталіся толькі ўспаміны –
І працяг жыцця...

*Таццяна Бучэль*

## ЭКС-АМБАСАДАР БРАЯН БЭНЭТ УЗНАЧАЛІЎ АНГЛА-БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА

Шматгадовага кіраўніка Англа-беларускага таварыства Джыма Дынглі змяніў былы амбасадар Вялікабрытаніі ў Беларусі Браян Бэнэт.

Чарговы сход Англа-беларускага таварыства прайшоў у Лондане, у будынку беларускай каталіцкай місіі (Marian House — Дом Марыянаў).

Грамадская арганізацыя, створаная ў 1954 годзе, аб'ядноўвае жыхароў Вялікабрытаніі, якія цікавяцца Беларуссю, жадаюць з ёй супрацоўнічаць, папулярызаваць беларускую культуру ў Вялікабрытаніі.

Папярэдні старшыня арганізацыі — вядомы беларусіст, перакладчык Джым Дынглі. У працы таварыства ён удзельнічае ўжо паўстагоддзя і двойчы ў розныя гады быў яго старшынёй. Ён сказаў карэспандэнту "Свабоды", што вельмі хацеў бы прывезці ў Англію гурт "Троіца", але на гэта не стае грошай. Паводле ягоных словаў, беларуская амбасада ў Лондане не надта дапамагае наладжваць культурныя сувязі:

"Я сустракаўся і з папярэднімі амбасадарамі, і з сённяшнім амбасадарам Сяргеем Алейнікам. Кантакты ёсць. Але няма ніякіх вынікаў з тых кантактаў".

Сход абраў новым старшынёй Англа-беларускага таварыства Браяна Бэнэта, амбасадара Злучанага Каралеўства ў Беларусі ў 2003–2007 гадах. Сябры таварыства спадзяюцца, што ягоны дыпламатычны досвед дапаможа больш актыўна набліжаць Беларусь да брытанцаў.

"Я спадзяюся, што люблю Беларусь не менш за папярэдняга старшыню спадара Дынглі. І жадаю падбадзёрваць Англа-беларускае таварыства рухацца наперад", — заявіў спадар Бэнэт пасля абрання.

У найбліжэйшых планах АБТ — адзначэнне гадавіны паўстання Каліноўскага і канцэрт дударскай музыкі. З беларускімі дударамі на адным канцэрце жадаюць звесці знакамітых на ўвесь свет шатландскіх.

Сярод сяброў Англа-беларускага таварыства — і этнічны кітаец Рафаэль Цзыўай, малады архітэктар, аўтар праекта беларускай уніяцкай царквы ў Лондане.

"Я зачараваны Беларуссю. Гэта надзвычайна цікавая краіна, і яе вельмі мала разумеюць на Захадзе. Дагэтуль многія думаюць, што гэта нейкая частка Расіі — а гэта ж зусім не так".

Каб стварыць праект царквы, Рафаэль мусіў добра вывучыць гісторыю й культуру Беларусі, бо хацеў стварыць менавіта беларускую царкву.

"Толькі я прашу, — папярэджвае Рафаэль, — цяпер часта гэты праект звязваецца з маім імем, нібыта я адзін усё прыдумаў. А гэта не так, вынік быў бы немагчымы без дапамогі айца Сяргея з Дома Марыянаў, гісторыка, а цяпер брытанскага юрыста Міколы Пачкаева і вядомай даследчыцы й тэолага Ірыны Дубянецкай, па сумяшчальніцтве — маёй хроснай маці".

*"Радыё Свабода"*

## У ВАРШАВЕ ПРАЙШЛА БЕЛАРУСКАЯ ДЫКТОЎКА

Сёлета Беларуская нацыянальная памяць прысвяціла мерапрыемства загінулым і пратэстуючым на Майдане. У якасці тэксту для дыктоўкі быў выбраны верш Тараса Шаўчэнкі "Запаведзь" у перакладзе Янкі Купалы. Як гаворыць арганізатар дыктоўкі Анатоль Міхнавец, сёлета яна не будзе мець пераможцаў і ўзнагарод:

"Мы гэтым вершам хацелі выказаць сваю салідарнасць з украінскім народам, які змагаецца, які перамог і, спадзяюся, дацісне гэтую акупацыйную маскальскую гадзіну. І тыя ідэалы, пра якія пісаў Шаўчэнка, і за якія ён змагаўся, урэшце будуць рэалізаваныя. Чарга цяпер за Беларуссю. Украінцы змагаюцца, таму што яны – украінцы, яны ведаюць сваю мову, сваю гісторыю, таму што яны нацыяналісты ў добрым сэнсе гэтага слова. І пакуль мы, беларусы, не будзем ведаць, хто мы, не будзем ганарыцца сабой, мы не пераможам. Таму беларуская мова – гэта першы крок да таго, каб мы ўрэшце пачалі сябе паважаць. І нас будуць паважаць іншыя".




На ўкраінскай мове верш прачытала ўкраінская журналістка Юлія Гогаль. Таксама ў час дыктоўкі падпісалі паштоўкі для палітвязня Яўгена Васьковіча, дзень народзінаў якога прыпадае на 26-га лютага.

*Кася Бергель,*
*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## СТВОРАНА СТРАТЭГІЯ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ АСВЕТЫ Ў ПОЛЬШЧЫ



Над стратэгіяй развіцця беларускай асветы ў Польшчы амаль два гады працавалі прадстаўнікі ўраду, беларускіх арганізацый, выкладчыкі і настаўнікі.

Дакумент не мае моцы закона, але тым не менш яго наяўнасць вельмі патрэбная, кажа старшыня аб'яднання "АБ-БА" Барбара Пякарская: "Па-першае, сітуацыя, у якой мы знаходзімся на сённяшні дзень, беларуская адукацыя на Беласточчыне, і тое, што мы хочам рабіць, а ці зробім, гэта ўжо залежыць ад нас. Думаю, гэта вялікая справа, што мы гаварылі адным голасам, нашае аб'яднанне атрымала ўпаўнаважанні, каб надалей займацца рэалізацыяй гэтай стратэгіі ад імя ўсіх беларускіх арганізацый".

Цяпер стратэгія развіцця беларускай асветы ў Польшчы чакае афіцыйнага падпісання. Беларусы стварылі ўласную стратэгію чацвёртымі па ліку пасля літоўскай, нямецкай і ўкраінскай меншасцяў.

*Радэк Дамброўскі,*
*"Беларускае Радыё Рацыя"*
*На здымку - Барбара Пякарская*

## У ПРАЗЕ ГУЧАЎ БЕЛАРУСКІ ШАНСОН

16 лютага ў Празе ў музычным клубе "U Lažanských" адбылася нефармальная прэм'ера новага праекта Змітра Вайцюшкевіча "Варанок" — зборніка беларускіх турэмных песень.

Паводле аўтара, гэта першая спроба беларускамоўнага шансону — музыкі, разлічанай не на экспертаў, а на кіроўцаў таксі, хатніх гаспадыняў і іншую шырокую публіку. Ідэя праекта належыць паэту Генадзю Бураўкіну, ён жа напісаў амаль усе тэксты для дыска, які рыхтаваўся некалькі гадоў.

На канцэрт прыйшлі каля сотні чалавек, пераважна беларусаў, якія жывуць у Празе.

Музыка прадставіў таксама свае песні на словы Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Някляева, Леаніда Дранько-Майсюка.

Вайцюшкевіч, які ў 2010 годзе ўдзельнічаў у выбарчай кампаніі кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева, выказаў шкадаванне, што ягоныя канцэрты ў Беларусі забароненыя і ён мае магчымасць выступаць толькі па-за межамі Беларусі — у Расіі, Польшчы Чэхіі.

Як распавёў Зміцер Вайцюшкевіч "Свабодзе", ён рыхтуе новы праект, звязаны з Чэхіяй. Увосень мае выйсці альбом, у якім па-беларуску прагучаць песні знакамітага чэшскага барда Яраміра Ногавіцы.

*Паводле "Радыё Свабода"*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў сакавіку: **Лідзію Савік** (Беларусь), **Іну Снарскую** (Украіна), **Юрку Станкевіча** (Чэхія).

Зычым бадзёрага, радаснага настрою, натхнення і спору ў працы, выдатнага здароўя і пазітыву!

5 сакавіка юбілей адзначае сябра Вялікай Рады **Мікола Люцко** (Беларусь). Ад усяго сэрца віншуем шаноўнага юбіляра са святам! Жадаем моцы, святла, поспеху ў здзяйсненні задуманага, а таксама многіх прыемных падзеяў у жыцці!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



# НАВІНЫ КАМПАНІІ “БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!”

## ЗОРКІ ІМЁНАЎ: НОВЫЯ ВЕРШЫ БАРАДУЛІНА ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЮЦЬ ЖЫЦЦЁ

У лютым кампанія “Будзьма!” распачала праект “Зоркі імёнаў”.

Кажуць, калі на зямлі нараджаецца дзіця, на нябёсах загараецца новая зорачка. Яна расце, сталее і становіцца ўсё больш і больш яркай на працягу ўсяго жыцця чалавека. Відаць, імёны таксама маюць уласныя адбіткі на небасхіле, а можа, нават цэлыя сузор’і. Назвалі бацькі дзяўчынку Янінай — у сузор’і Янінак дадалася зорачка. Ва ўсе часы паэты складалі вельмі асабістыя вершы-прысвячэнні пэўным асобам са свайго жыцця — каханым, дзецям, сваім сужэнцам.

Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін і Уладзімір Някляеў натхнёна ўзяліся прысвяціць верш кожнаму маленькаму беларусу, а 30 прысвячэнняў для праекту “Зоркі імёнаў” ужо былі гатовыя.

Мы смуткуем па дзядзьку Рыгору, Рыгору Барадуліну. Але ў нас ёсць яго вершы, якія толькі пачынаюць жыццё. Яго вершы жывуць, яго справа жыве, а значыць, і зорка Рыгора Барадуліна ніколі не згасне!




## НЕ МАЎЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ! НОВЫ ПРАЕКТ “БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!” ДА ДНЯ РОДНАЙ МОВЫ

Для ўсіх, хто толькі пачынае размаўляць па-беларуску ці толькі на ёй і гаворыць, хто пачынае цікавіцца роднай мовай ці ўсё пра яе ведае і выкарыстоўвае штодня, кампанія стварыла серыю паштовак, якія адназначна дапамогуць у штодзённай камунікацыі па-беларуску. Аўтаркі праекта, маладыя таленавітыя мастачкі Дар’я Мандзік і Яна Войцік, сталі не толькі пераможцамі конкурсу культурніцкіх ідэй ад “Будзьма!”, але і пераможцамі конкурсу “Мы-2012” і цяпер разам з кампаніяй заклікаюць: не маўчы па-беларуску!

“Апраніся па-беларуску!” — першая з новай адукацыйнай серыі паштоўка, якую кампанія сёння прадстаўляе.

Паштоўкі будуць распаўсюджвацца праз сістэму Fly Cards, а таксама на мерапрыемствах кампаніі ў Мінску і рэгіёнах. Шукайце, бярыце, удасканальвайцеся!

Наступныя паштовачкі хутка будуць таксама і на сайце кампаніі, і на стэндах флай кардс.

Не маўчым па-беларуску разам!

*budzma.by*






## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА САКАВІК 2014 ГОДА

3 сакавіка – 70 гадоў таму забіты Францішак Аляхновіч (1883–1944), нацыянальны дзеяч, драматург. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

4 сакавіка – 10 гадоў таму, у 2004-м, у Вільпенце пад Парыжам (Францыя) памёр Міхась Наўмовіч, мастак, дзеяч эміграцыі ў Францыі.

8 сакавіка – 25 гадоў таму памёр Мікола Ягаўдзік (1926–1989), вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША.

9 сакавіка – 200 гадоў таму ў в. Морынцы (цяпер Звянігарадскі р-н Чаркаскай вобл., Украіна) нарадзіўся Тарас Шаўчэнка (1814–1861), украінскі пісьменнік, мастак, заснавальнік новай украінскай літаратуры. У 1829-1831 гг. жыў у Вільні. Падтрымліваў беларускі рух.

12 сакавіка – 100 гадоў таму ў в. Краснадворцы (цяпер Салігорскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Клішэвіч (1914–1978), паэт, публіцыст, вязень савецкіх турмаў, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

13 сакавіка – 25 гадоў таму ў Чыкага памёр Іван Касяк (1909–1989), грамадскі дзеяч, публіцыст, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША).

15 сакавіка – 20 гадоў таму, у 1994-м, у Мінску на сесіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання прынятая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

22 сакавіка – 150 гадоў таму ў Вільні на Лукішскім пляцы павешаны Кастусь Каліноўскі (1838–1864), кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання. Магіла знаходзілася паблізу сённяшняй вежы Гедыміна.

24 сакавіка – 220 гадоў таму, у 1794-м, пачалося вызваленчае паўстанне на чале з Тадэвушам Касцюшкам.

24 сакавіка – 20 гадоў таму, у 1994-м, у Вільні ўсталяваная памятная дошка Кастусю Каліноўскаму.

25 сакавіка – Дзень Волі.

25 сакавіка – 55 гадоў таму, у 1959-м, у кангрэсе ЗША ўніяцкі святар Уладзімір Тарасевіч адчытаў малітву за беларускі народ.

25 сакавіка – 10 гадоў таму памерла Валянціна Пашкевіч (1916–2004), дзеяч эміграцыі ў Канадзе, аўтар беларускіх падручнікаў і "Ангельска-беларускага слоўніка".

26 сакавіка – 10 гадоў таму, у 2004-м памёр Янка Баран, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

27 сакавіка – 115 гадоў таму, у 1899-м, нарадзіўся Аляксей Васіленя (в. Малая Бераставіца, цяпер Берастаўіцкі р-н), грамадска-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

27 сакавіка – 35 гадоў таму ў Вашынгтоне памёр Рыгор Крушына (Казак; 1907–1979), пісьменнік, паэт, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

## ПЕРШЫМ ЛАЎРЭАТАМ ПРЭМІІ ІМЯ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА СТАЎ АНТОН АСТАПОВІЧ



Вечарам 20 лютага ў Мінску старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі культуры Антон Астаповіч быў уганараваны прэміяй імя Вацлава Ластоўскага, заснаванай Мінскім гарадскім таварыствам аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага за важкі ўнёсак у папулярызацыю гістарычных ведаў у беларускім грамадстве.

Такое рашэнне прыняла камісія ў складзе старшыні таварыства, доктара гістарычных навук, прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Георгія Штыхава, намесніка старшыні таварыства, доктара навук у галіне інфармацыйных тэхналогій, прафесара Анатоля Тараса, сакратара таварыства, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, кандыдата мастацтвазнаўства Ірыны Шумскай, дырэктара грамадскага аб'яднання "Інстытут беларускай гісторыі і культуры" (Рыга, Латвія), магістра эканомікі Віктара Яўмененкі і старшыні рэвізійнай камісіі таварыства, кандыдата тэхнічных навук Алега Шагуліна.

Сярод намінантаў на гэтую нядаўна заснаваную прэмію Ірына Шумская назвала аўтара серыі гістарычных артыкулаў у газеце "Новы Час" і на сайце "Гістарычная праўда", кандыдата гістарычных навук Ігара Мельнікава, каардынатара праекта "Вусная гісторыя", гісторыка Ірыну Кашталян, пісьменніцу Людмілу Рублеўскую за кнігу "Рыцары і дамы", а таксама стваральніка першай беларускай настольнай гульні "Паўстанцы. Каліноўскі супраць Мураўёва", літаратара і рэжысёра з Гародні Антона Янкоўскага.

*Паводле "Новага Часу"*



**Беларусы ў свеце**
№2(142), люты 2014

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27